


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

2 мая 2003 года

№ 18 (419)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Новыя рабочыя месцы

**ВАЛОЖЫН.** У райцэнтры з'явіцца прадпрыемства па вытворчасці мінеральнай вады. Яно пачне работу ў пачатку мая. Плануецца стварыць каля 70 рабочых месцаў. Вада пойдзе са свідравіны ў Валожынскім раёне. Акрамя мінеральнай, прадпрыемства будзе спецыялізавацца на выпуску пітной і газіраванай вады.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Падарунак з Францыі

**АШМЯНЫ.** Калекцыю філіяла нацыянальнага мастацкага музея ў Гальшанах папоўнілі 56 рэпрадукцый з Францыі. Іх падарыла ўдава мастака Фернана Лежэ **Надзея Хадасевіч-Лежэ**, беларуска па паходжанні. У музеі цяпер адкрыта выстаўка гэтых рэпрадукцый. Частка адносіцца да заходнееўрапейскага мастацтва, другая – рэпрадукцыі карцін Марка Шагала.

**Ірына РАБУШКА.**

### Экзотыка ў Купе

**МЯДЗЕЛ.** У Купе можна пабачыць прыгожы сіні фургончык, які цягне конік Малыш. На ім развозяць хлеб, прадукты па мясцовых крамах курортнага гандлю. Ездзяць і ў Кабыльнік. Гэтым самым з дапамогай Малыша эканомяць паліва, ды і экзотыкі ў жыццё ён дабаўляе: многія з адпачываючых жадаюць сфатаграфавацца каля яго.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Новы кіраўнік

**АСТРАВЕЦ.** У раёне змяніўся загадчык аддзела культуры. Былая загадчыца **Данута Чарнушэвіч** звольнілася ў сувязі з выхадам на пенсію і працуе цяпер намеснікам дырэктара цэнтральнай раённай бібліятэкі. Цяпер выконвае абавязкі загадчыка аддзела культуры **Сяргей Сяўко**, які раней працаваў выкладчыкам музыкі ў Кямелішскай СШ.

**Ірына РАБУШКА.**

### Змена графіка

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сувязі з надыходзячымі выхаднымі змяняюцца графікі руху электрычак і дызель-цягнікоў.

Дызелі Маладзечна-Крулеўшчына, Маладзечна-Ліда і Маладзечна-Гудагай 6, 9 мая будуць ездзіць як па суботах. 4, 11 мая – як па нядзелях, 3, 10 мая – як па нядзелях, акрамя поезда Маладзечна-Параф'янаў адпраўленнем у 7.20. Электрычкі на ўчастку Маладзечна-Мінск будуць ездзіць 2, 5, 8 мая як па пятніцах, 3, 9, 10 мая – як па суботах, 4, 6, 11 мая – як па нядзелях.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Зачаравала Вікторыя

**МАЛАДЗЕЧНА. І хто супраць таго, што на здымку само зачараванне?**

**Вікторыя Валковіч** атрымала тытул "Міс Зачараванне" на шоу "Дзелавая жанчына", якое прайшло ў гандлёва-эканамічным каледжы. Але доля смутку ў вачах, напэўна, засталася, бо да галоўнага тытулу "Міс-Бухгалтар" Вікторыя не дацягнула.

На яго прэтэндавалі 5 другакурсніц каледжа. Яны парадолелі 4 конкурсы. У першым – "Візітная картка", ці "Дзелавая жанчына" – канкурсанткі расказвалі, якім павінен быць бухгалтар, да чаго імкнуцца і самі дзяўчаты. Напрыклад, **Алена Крыўкіна** лічыць: узялася за справу – зрабі, а інакш і не бярыся. **У Наталлі Малахавай** дэвіз: ніколі не стаяць на месцы. **Маша Камянецкая** ўсіх запэўніла, што бухгалтары не сухія людзі, як пра іх звычайна гавораць, а творчыя і цікавыя натуры. Дарэчы, усе дзяўчаты на 1-м конкурсе, акрамя Вікторыі, былі апрануты ў штаны, а некаторыя і гальштукі завязалі. Што і казаць, дзелавыя жанчыны.

Другі конкурс – "Размінка". Усе канкурсанткі сядзелі за столікамі. Ім прапанавалі некалькі пытанняў, звязаных з будучай прафесіяй. На кожнае пытанне былі па 3 варыянты адказаў. Свой выбар яны пацвярджалі таблічкамі, якія падымалі. Дзяўчаты, як па камандзе, давалі правільныя адказы. Вядучаму шоу нават падалося, што хтосьці ім падказвае. Потым канкурсанткі працавалі пісьмова. Рабілі бухгалтарскія праводкі. Вядучы зноў засумняваўся: ці разбярэцца ў іх журы. Яно складалася з трох мужчын; двух выкладчыкаў інфарматыкі і выкладчыка фізічнай культуры. Маўляў, у нас свае крытэры. Але ім усё роўна прыйшлося выкарыстаць дапамогу спецыяліста.

У наступным конкурсе "Натхненне" дзяўчаты паказалі, на што яшчэ здольныя будучыя бухгалтары. Чаго тут толькі не было. І танцавалі, і спявалі, і верш на польскай мове прачыталі.

У апошнім конкурсе дзяўчаты прадставілялі вячэрнія ўборы. Група падтрымкі, якая была за В.Валковіч, і тут не падвяла: усе так моцна пляскалі ў далоні. Як заўважыў вядучы праграмы, гэтая група амаль што стала шостай удзельніцай шоу. Віка рыхтавалася да конкурсу 2 тыдні. І не была ўпэўненая, што пераможа. Таму і не засмуцілася. Алена Крыўкіна да апошняга верыла ў сваю перамогу. Найбольш складаным лічыць конкурс-візітку:

– Менавіта ён паказвае, хто ты. У ім канкурсант заяўляе аб сабе.

Вельмі нечаканым для яе стаў галоўны тытул "Міс Бухгалтар-2003". А Маша Камянецкая падрыхтавалася да конкурсу за гадзіну да яго пачатку. І гаворыць:

– Галоўнае, каб Дзіма на мне жаніўся.

Не ведаю, ці то Дзіма пабач са мной сядзеў, ці то не. Але, як выйшлі дзяўчаты на сцэну, сусед мой сказаў: "Жанюся!". Дарэчы, такое жаданне ўзнікла не толькі ў гэтага хлопца. Мяркую, што і не толькі ў адносінах да Машы.

**Ірына РАБУШКА.**



**Вікторыя Валковіч атрымала тытул «Міс-Зачараванне» на шоу «Дзелавая жанчына», якое прайшло ў гандлёва-эканамічным каледжы.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Дзе пралілася кроў...



Летась у Красным знайшлі астанкі 15 ахвяр другой сусветнай вайны. Аляксандр Харытон быў сведкам падзей пачатку 40-х.

2-я старонка

### Краязнаўства – яго хобі



Наш аўтар Анатоль Рогач, якога ведаюць чытачы па гістарычных матэрыялах, у юнацтве марыў стаць маракам.

5-я старонка

### Беларускі немец з Астраўца



Немец Гуга Бруна Отавіч Шмельцле ў Азербайджане, пазнаёміўся з жонкай у Казахстане, а жыве ў Астраўцы.

6-я старонка

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Вынікі красавіка

**Ужо ў першы тыдзень красавіка практычна завяршылася вайна кааліцыі ў Іраку, амерыканскія войскі ўстанавілі поўны кантроль над Багдадам і іншымі гарадамі, скінуты з п'едэстала вялізны бронзавы манумент Садама Хусейна.**



Валожынскі раён. 23 красавіка. Падрыхтоўка да пасяўной. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Пасляваенны Ірак

Зброі масавага знішчэння, з-за якой і пачыналася ўварванне англа-амерыканскіх войскаў, у краіне не знайшлі. Сапраўднай бітвы за кожны дом і за сталіцу, аб якой пастаянна перасцерагалі з экранаў тэлевізараў, у тым ліку і па БТ, не было, дыктатар знік, як і ўся яго сям'я і вялізная дывізія рэспубліканскай гвардыі. Марадзёры грабяць палацы і дамы, выносяць усё паддрад. Вызваленне краіны ад дыктатуры прайшло імкліва – Амерыка страціла крыху больш за 100 ваенных, устанаўленне ў Іраку дэмакратыі запатрабуе нашмат больш часу. ЗША зрасходавалі на вайну каля 20 мільярдаў долараў, зразумела, што перавага пры размеркаванні падрадаў на пасляваеннае ўзнаўленне краіны будзе пры негалоснай падтрымцы ААН аддадзена кампаніям Амерыкі і Брытаніі. Расіі, і тым больш нашай краіне разлічваць на гэта нельга. З краін СНГ на баку амерыканскай кааліцыі ўдзельнічала толькі Украіна, чый батальён хімічнай аховы прастаяў спакойна ў Кувейце. Нягледзячы на ўсе завярэнні аналітыкаў, цэны на нафту пасля заканчэння вайны не пайшлі рэзка ўніз, злёгу ажывіліся, толькі індэксы на сусветных біржах.

## Еўрасаюз пашыраецца

16-17 красавіка прадстаўнікі некалькіх дзесяткаў краін прынялі ўдзел у Еўрапейскай канферэнцыі ў Афінах. На падставе падпісанага там акта (дакумент на 21 мове займае каля 5000 старонак) роўна праз год, з 1 мая 2004 года, новымі членамі Еўрасаюза стануць Польшча, Венгрыя, Чэхія, Славакія, Літва, Латвія, Эстонія, Кіпр і Мальта. Пасля гэтага – пятага па ліку і самага вялікага пашырэння альянса з 15 краін да 25 — адзіная Еўропа стане яшчэ магутней, тэрыторыя павялічыцца на чвэрць, насельніцтва на 75 мільёнаў чалавек, а аб'ём валавога ўнутранага прадукта на 800 мільярдаў долараў. Хаця даход на душу насельніцтва ў далучаных краінах складае ўсяго 40% ад дзеючага ў Еўропе ўзроўню, уступленне новых краін вітаюць усе – такім чынам пераадольваецца існаваўшы амаль стагоддзе падзел Еўропы на Заходнюю і Усходнюю.

## Вірус атыповай пнеўманіі

Цэлы месяц у многіх краінах Паўднёва-Усходняй Азіі лютавала эпідэмія атыповай пнеўманіі. Часова наведваць Кітай, Ганконг, Сінгапур і Малайзію не рэкамендуецца, у выніку чаго гэтыя краіны церпяць страты ад спаду турызму і агульнага зніжэння тэмпаў росту, спынення прытоку інвестыцый у рэгіёне.

## Адмянілі абмежаванні

Добрая навіна для беларускіх чыноўнікаў – Еўрапейскі саюз і ЗША адмянілі санкцыі, згодна з якімі ўезд на тэрыторыю краін ЕЭС і Амерыкі быў забаранёны сямі вышэйшым дзеячам краіны і беларускаму прэзідэнту. Менавіта па гэтай прычыне ў мінулым годзе А.Лукашэнка не быў дапушчаны на саміт у Прагу. Змякчаючым крокам стаў допуск у краіну чарговай місіі АБСЕ, хаця і з урэзаным мандатам.

## Пасяўная

У краіне красавік, як звычайна, звязаны ў народзе з суботнікам і пасяўной. Суботнік адбыўся, грошы будуць пералічаны на будаўніцтва бібліятэкі. Пасяўная ж прытармазілася з-за неспрыяльных умоў надвор'я. На селектарнай нарадзе з кіраўнікамі рэгіянальных структур і чыноўнікамі ўрада прэзідэнт зноў паабяцаў аказаць дапамогу аграрнікам – яны атрымаюць каля 300 мільёнаў долараў, з якіх 55 мільёнаў дасць бюджэт, 27 мільёнаў – банкі і 19 мільёнаў выдзяляецца пад дзяржаўны заказ. Скінуцца прыйдзецца ўсім – прадпрыемствам і бізнесменам.

## Пра курсы долара і еўра

Пасяўная патрабуе танных грошай. У сувязі з гэтым з 21 красавіка Нацыянальным банкам стаўка рэфінансавання знiжана на 2%, да 35% гадавых. Па прагнозных разліках, да канца года яна будзе знiжацца і далей да ўзроўню 28-30%. Усё гэта прыводзіць да рэзкага зніжэння даходнасці рублёвых зберажэнняў – насельніцтва вырашае не рызыкаваць і размяшчае грошы на кароткія тэрміны.

Гэтаму садзейнічае і бурны рост курсу долара ЗША: за месяц ён склаў каля 40 рублёў — каля 2% у пераліку і склаў 2010-2015 рублёў за долар. Курс еўра ў адносінах да долара хістаўся на працягу месяца на 1,5-2%, аднак еўра, нягледзячы на заканчэнне ўзброеных дзеянняў у Іраку, усё роўна застаецца мацней за амерыканскую валюту, што тлумачыцца спадам вытворчасці ў ЗША.

## Эканоміка Беларусі

Сярэдняя пенсія ў красавіку не дасягала нават 100 тысяч рублёў, стыпендыя студэнтам вышэйшых навучальных устаноў – 28 тысяч. Эканамічны рост у краіне суправаджаўся рэзкім скарачэннем сацыяльнай падтрымкі насельніцтва. Як заявіў прэзідэнт на штогадовым пасланні парламенту, растуць затраты насельніцтва на паслугі аховы здароўя, зніжаецца колькасць ільгот грамадзянам. Аднак аб рэфармаванні эканомікі нічога сказана не было. А далей што? Колькасць стратных прадпрыемстваў вырасла за месяц на 4%, запасы гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў ужо складаюць 75% месячнага аб'ёму вытворчасці. У сувязі з гэтым і работа няпоўную рабочую змену, і несвоечасовая выдача заработнай платы на некаторых прадпрыемствах Маладзечна (станказавод і ЗМК).

## Ці вырасце зарплата

З 1 мая павышаюцца базавая велічыня з 13300 да 14000 рублёў і стаўка 1 разраду. У сувязі з гэтым магчыма павелічэнне даходаў бюджэтнікаў і работнікаў прадпрыемстваў, што працуюць паспяхова.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 24.04 руб. | 30.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2017,00 | 2021,00 |
| Еўра | 2212,77 | 2218,05 |
| Злоты | 518,71 | 518,87 |
| Літ | 640,89 | 642,36 |
| Расійскі рубель | 64,85 | 64,98 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2020/2025 | 2020/2030 |

## Маладзечна. Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 23.04 | 30.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11900 | 11900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4090 | 4090 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 800 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1800 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 680 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Капуста, 1 кг | 1000 | 1050 |
| Морква, 1 кг | 1300 | 950 |
| Лімоны, 1 кг | 2200 | 2200 |
| Апельсіны, 1 кг | 1850 | 1750 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2100 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 3600 | 3500 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1180 |

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ РЭКЛАМАДАЎЦАЎ

## Наколькі эфектыўная вашая рэклама ў "РГ"?



**Сяргей Мікульчык, дырэктар ТАА "Спарк":**

– Да таго, як мы размяшчалі рэкламу толькі ў цэнтральных газетах, маладзечанцы ішлі да нас менш. "РГ" дапамагла прыцягнуць да нас мясцовых спажыўцоў.



**Анатоль Шэін, дырэктар ТАА "Візіт":**

– Вельмі. Рэкламу мы давалі столькі, колькі існуе "РГ", і прадўжаем яе на будучыя нумары аўтаматычна. "РГ" – адзіная газета, якую я выпісваю дома. "РГ" для нас – гэта выгадна і зручна.



**Рэгіна Кананові́ч, галоўны бухгалтар Маладзечанскага філіяла РУВП "Віцязь":**

– Да нас званяць і прыязджаюць за тэлевізарамі і з вёсак, і з іншых раёнаў, дзе выходзіць "РГ". Падабаецца, што вашая газета на розныя густы, а не для вузкіх спецыялістаў.



**Станіслаў Брыль, індывідуальны прадпрымальнік, Вілейка:**

– Сэнс даваць рэкламу ў "РГ" ёсць. Нас вабіць тое, што газета выходзіць на 7 раёнаў. За мэбляй у нашыя магазіны прыязджаюць і з Ашмянаў, і з Астраўца.

**Экспрэс-апытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Па жыцці – разам

Дзякуй чытачам за дасланыя анкеты. Мы сапраўды спадзяёмся на тое, што з вашай дапамогай, паважаныя чытачы, зможам зрабіць газету больш цікавай і карыснай. І, здаецца, анкеты, якія вы даслалі, у гэтым дапамогуць. У іх мы знайшлі шмат карысных ідэй і прапаноў, многія з якіх абавязкова пастараемся выкарыстаць. Падрабязна і скрупулёзна мы будзем аналізаваць вынікі анкетавання не адзін дзень. А сёння хочацца зрабіць нешта накшталт агляду вашых адказаў, прапаноў, заўваг.

### Кола чытачоў

Большасць чытачоў заўважае, што той экземпляр газеты, які яны чытаюць, прачытае яшчэ некалькі чалавек. Найчасцей называецца лічба ад трох да пяці. Адна з чытачак напісала, што газету, якую яна купляе ў кіёску, чытаюць на яе рабоце 6 чалавек, дома – двое, а яшчэ яе бацькі. Абсалютная большасць тых, хто адказаў на анкету, чытае нашую газету больш за тры гады з нумара ў нумар. Гэта сведчыць пра тое, што кола нашых чытачоў фармуецца сярод тых, хто не расчараваўся ў "Рэгіянальнай газеце" і стаў яе сапраўдным сябрам. Між тым, мы ўважліва ставімся і да крытычных заўваг, трывожных званкоў, якія сігналізуюць аб неабходнасці ўдасканальвання сваёй работы.

Часам чытачы выказваюць прама супрацьлеглыя інтарэсы. Ці магчыма адзінае правільнае рашэнне, напрыклад, адносна лёсу рубрыкі "Сектар спорту"? Большасць маладых чытачоў любяць гэтую рубрыку і яго аўтараў, у першую чаргу Сяргея Гайковіча, і выказваецца за павелічэнне аб'ёму "спартыўнага вяшчання" ў нашым газетным "эфіры". Але ёсць і апаненты, якіх таксама нямала, для якіх "Сектар спорту" – баласт у газеце. Тое самае можна сказаць, напрыклад, пра гараскоп. Тут інтарэсы чытачоў таксама падзяліліся. Нехта – катэгарычна супраць іх, нехта – у захапленні. Магчыма, самым правільным рашэннем будзе кампрамісае рашэнне, калі і аб'ём "Сектара спорту" (гараскопа таксама) застанецца ранейшым, і іншых матэрыялаў будзе больш – трэба газеце "таўсцець".

Мы сапраўды пастаянна ідзём да большага аб'ёму газеты. Калі ў 1995 годзе "Рэгіянальная газета" пачынала з чатырох старонак звычайнага газетнага фармату А3, то сёння ў пераліку на гэты фармат (частка газеты "Тэлетыдзень" выходзіць у фармаце А4) наш аб'ём складае 20 старонак. У пяць разоў больш! І на гэтым мы спыняцца не будзем.

### Пра пажаданні

Шмат пажаданняў дадаць хаця б адзін колер амаль у кожнай з дасланых анкет. Мы будзем старацца гэтую тэхнічную праблему вырашыць. Многія хацелі б часцей бачыць у "Рэгіянальнай газеце" гумар, конкурсы, больш крымінальных




Калаж Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Пачалася падпіска на 2-е паўгоддзе. Падпісацца на "Рэгіянальную газету" можна на любым паштовым аддзяленні на тэрыторыі Беларусі. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц 2000 рублёў (індэкс 63212). Для ведамаснай падпіскі – 5941 рубель (індэкс 63369). Будзь у нашай кампаніі.**

паведамленняў.

Значная частка чытачоў аддае перавагу матэрыялам на гістарычныя тэмы, згадваючы рубрыку "Куфэрак". Прагледзеўшы анкеты, якія паступілі на адрас рэдакцыі, мы ўпэўніліся яшчэ раз у правільнасці абранага шляху, дзе прыярытэтам ёсць культурныя і гістарычныя, маральныя каштоўнасці нашага народа, яго мова. Хаця пару галасоў было і за рускамоўнасць газеты. Але такіх – значная меншасць. Мы ставімся з павагай да думкі кожнага, але лічым, што ва ўмовах, калі дзяржаўная палітыка не спрыяе пашырэнню ўжывання мовы тытульнай нацыі ва ўсіх сферах жыцця, адзіна правільнай пазіцыяй масавай мясцовай газеты будзе не здраджваць свайму народу і гаварыць з чытачом на той мове, на якой тут гавораць спрадвек. Тым больш, што "чтива" рускамоўнага дастаткова навокал і наталіць смагу на гэта можна без праблем.

А адзін з падпісчыкаў на пытанне, чаго газеце не хапае, напісаў: яшчэ адной тысячы падпісчыкаў.

### Пра тэмы наступнага нумара

Многія пра чарговы фестываль нацыянальнай песні і паэзіі ў Маладзечне. Некаторыя – пра тое, што атрымаў падарунак ад "РГ" – фірменную майку. Адзін з рэспандэнтаў напісаў: "Пра тое, што прэзідэнт РБ паляцеў на Марс". Некалькі чалавек пажадалі ўбачыць больш падрабязную інфармацыю пра магчымасць працаўладкавацца... Увогуле, тут ёсць вельмі шмат самых розных прапаноў, якія будуць вельмі ўважліва вывучацца, каб дапамагчы вам знайсці адказы на пастаўленыя пытанні, хай не ў самым бліжэйшым нумары, але знайсці абавязкова. Хіба што экскурсіі на Марс не мы арганізоўваем.

### Любім марыць

Нашы чытачы не пазбаўленыя не толькі пачуцця гумару. Яны могуць быць не толькі вельмі спрактыкаванымі і прагматычнымі. Яны таксама любяць марыць, любяць чытаць пра каханне (і не толькі жанчыны!).

Раскажыце нам пра сваю (свае) гісторыю кахання, падзяліцеся марамі – мы апублікуем гэта, захаваўшы тайну вашага імя. Магчыма, на старонках нашай газеты вы знойдзеце блізкія сабе душы.

### Экспрэс-апытанне

Сярод лідэраў на любоў і прыхільнасць чытачоў — рубрыка экспрэс–апытання. Некаторыя чытачы, асабліва з-за межаў Маладзечна, раяць часцей задаваць пытанні на вуліцах іншых гарадоў. І калі гэта амаль цалкам залежыць ад магчымасцяў рэдакцыі, то тэму апытання вы заўжды можаце нам падказаць, патэлефанаваўшы па любым рэдакцыйным тэлефоне. Галоўнае патрабаванне да пытання – каб яно мела грамадскае гучанне не толькі ў асобным горадзе або іншым паселішчы нашага рэгіёну, а з цікавасцю чыталася паўсюдна.

### Пра традыцыі

Настаўніца, якая чытае кожны нумар нашай газеты больш за тры гады і купляе яе ў кіёску "Белсаюздруку" напісала пра традыцыю, якая існуе ў яе сям'і: "У сям'і добрая традыцыя – у пятніцу за "Рэгіянальнай"!".

І наконт нашай галоўнай традыцыі – даваць навіны. Мы застанемся вернымі ёй і надалей. Большасць чытачоў адзначае сваю зацікаўленасць у аператыўных і цікавых навінах. І не дзіўна. Сапраўдная навіна і робіць, у рэшце рэшт, газету газетай.

**З павагай да вас галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

## Атрымайце маечкі!

**Дарагія чытачы, уважліва паглядзіце на змешчаныя ніжэй шыфры (другая частка шыфравога ключа). Калі яны супадаюць з тымі, што вы даслалі ў рэдакцыю на сваёй анкеце, то, назваўшы першую частку шыфравога ключа, якая таксама вядомая нам, вы зможаце атрымаць ад рэдакцыі падарунак: абяцаную фірменную майку. Заходзьце ў рэдакцыю ў любы рабочы дзень з 8.00 да 17.00. Папярэдне можаце патэлефанаваць па любым рэдакцыйным нумары.**

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

| | |
|---|---|
| 9308107159 | 1165040599 |
| 1716181920 | 6752835800 |
| 3176159112 | 2607196799 |
| 0105030709 | 4893945115 |
| 2416210565 | 5600575853 |

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – НАШ АЎТАР

# Краязнаўства – яго хобі

**ВІЛЕЙКА. Анатоль Рогач даўно і плённа супрацоўнічае з нашай газетай. Згодна з апытаннем нашых чытачоў, яго імя часта згадваецца ў ліку любімых аўтараў "РГ". А. Рогач вядомы перш за ўсё матэрыяламі пра гісторыю нашага краю.**

Любоў да краязнаўства ў Анатоля Рогача праявілася ў дзяцінстве. З удзячнасцю прыгадвае ён першага настаўніка з Каралеўцаў, дзе і сам нарадзіўся ў 1947 годзе, **Васіля Мікалаевіча Рогача**, выкладчыкаў Іжанскай сярэдняй школы **Ірыну Васільеўну Маркевіч**, якая вяла гісторыю, і **Васіля Лукіча Андрэйчанку** – географа.

Цяпер начальнік Вілейскага раёна электрасетак Анатоль Рогач успамінае:

— Бывала, з болем гаварыў Васіль Лукіч пра каладкоўскія азёры: маўляў, зарастаюць, а чалавек не хоча іх ачышчаць. Прыроду, казаў ён, трэба не толькі эксплуатаваць, але і дапамагаць ёй.

У старэйшых класах хлопец звярнуў увагу на тое, што школьная праграма па гісторыі вельмі абмежаваная. Чамусьці лічылася, што яна пасапраўднаму стала развівацца пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ну, падрабязна расказвалася пра Вялікую Айчынную вайну. А далёкае мінулае? Чаму яно так бедна асвятлялася? Чаму вучні амаль нічога не ведалі пра багатую гісторыю роднай Беларусі? Ірына Васільеўна хоць і старалася даць дадатковы матэрыял, але гэтага было зусім недастаткова. Тым больш, ні іжанцы, ні хто-небудзь з іншых вучняў раёна не чулі пра гісторыю Вілейшчыны, пра яе славутых землякоў.

## Мара – стаць мараком

Было над чым задумацца юнаку.

— Аднак, атрымаўшы атэстат сталасці, — расказвае Анатоль Валянцінавіч, — я наважыўся стаць мараком. Праўда, пра мора ведаў толькі з кніжак і аповедаў дзядзькі Уладзіміра (па матчынай лініі), які служыў у Ваенна-Марскім Флоце СССР. Было з каго браць прыклад. Ды рамантыка. Аднак...

Аднак выпускнік Іжанскай школы не змог прабіцца ў Адэскае вышэйшае інжынерна-марское вучылішча. Як гэта ў свой час удалося выбіцца ў ваенныя маракі дзядзьку Уладзіміру, Анатоль і па сённяшні дзень здзіўляецца.

Справа ў тым, што матчыну сястру Марыю нямецка-фашысцкія захопнікі вывезлі ў Нямеччыну. Пры вызваленні яна трапіла ў амерыканскую зону акупацыі. З-за боязі трапіць у Сібір Марыя адмовілася вярнуцца ў Савецкі Саюз. Займела сям'ю, пасялілася ў Аўстраліі. У 70-х гадах прыязджала нават на радзіму.

Дык вось. Для тых, у каго родныя жылі за мяжой, тым больш у капіталістычных краінах, доступ у ваенныя вучылішчы ды ў некаторыя іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы быў закрыты. Не выпадкова, калі Анатоль вырашыў ажыццявіць сваю мару, зноў у хату бацькоў завіталі кадэбісты: маўляў, якую сувязь яны падтрымліваюць з Марыяй Крыванос (прозвішча па мужу)? Чаму яна адмовілася вярнуцца ў Саюз? Ці не піша яшчэ хто-небудзь з Аўстраліі?..

Падчас акупацыі трапілі б у фашысцкую няволю і бацькі Анатоля. Але ведалі, што жанатых і замужніх у Нямеччыну не гоняць, таму Валянцін Рогач і Кацярына Занкавіч абвянчаліся. А праз колькі гадоў у зямлянцы і нарадзіўся Анатоль.

**У старэйшых класах хлопец звярнуў увагу на тое, што школьная праграма па гісторыі вельмі абмежаваная.**


Анатоль Рогач – жаданы госць у рэдакцыі "РГ". Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Шлях у дарослае жыццё

Не трапіўшы ў вучылішча, хлопец ні месяц не сядзеў на карку бацькоў. Працаваў у калгасе "Рассвет" палыводам, лабарантам у школе. А тут вакол Іжы, калгаснага цэнтра, дзе ўжо гарэлі электрычныя лямпачкі, ва ўсю праводзілася электрыфікацыя, і Рогачмалодшы ўладкаваўся на работу калгасным электрыкам. Пазней стаў працаваць электраманцёрам у Вілейскім раёне электрасетак.

Калі не лічыць службы ў радах Савецкай Арміі, то ўжо 35 гадоў не пакідае гэтага прадпрыемства. Займаўся завочна ў Беларусім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі, рос па службовай лесвіцы: электраманцёр - дзяжурны аператыўна-выязной брыгады - начальнік дыспетчарскай службы - намеснік начальніка - начальнік РЭС. Любіць сваю прафесію. А гісторыка-краязнаўчая работа – гэта яго хобі.

## Захапленне краязнаўствам

— Работа мне не перашкаджае, — лічыць А.Рогач. – Наадварот, дапамагае. Мне здаецца, што любы чалавек, на любой пасадзе павінны жыць інтарэсамі свайго краю, вывучаць і ведаць яго гісторыю і культуру, ніколі не цурацца роднай мовы. Інакш ты – не паўнацэнны грамадзянін.

**— Аднак, атрымаўшы атэстат сталасці, — расказвае Анатоль Валянцінавіч, — я наважыўся стаць мараком. Праўда, пра мора ведаў толькі з кніжак і аповедаў дзядзькі Уладзіміра (па матчынай лініі), які служыў у Ваенна-Марскім Флоце СССР.**

І прыводзіць пераканаўчы прыклад. Напярэдадні 2000 года прадпрыемства рыхтавалася да свайго 60-годдзя. Генеральны дырэктар рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Мінскэнерга" Васіль Бабей усумніўся ў рэальнасці юбілею. Не можа быць, казаў ён, каб Вілейскі раён электрасетак быў старэйшым, скажам, за Маладзечанскі. Усё, маўляў, даказваецца дакументальна.

Дакументальна? Калі ласка? І Рогач у архіўных матэрыялах здымае ксеракопіі двух дакументаў: пастановы Вілейскага аблвыканкома ад 5 красавіка 1940 года "Аб пабудове электрастанцыі ў Вілейцы" і пастанову таго ж выканкома ад 26 кастрычніка 1940 года "Аб пашырэнні электрастанцыі ў Вілейцы".

Падставы аказаліся больш чым пераканаўчымі, і ў канцы 2000 года ва ўрачыстай абстаноўцы юбілей быў адзначаны.

— А пачалася мая "экскурсія" ў гісторыю роднага краю, можна сказаць, выпадкова, — прызнаецца аматар-даследчык. – Адну з вуліц Вілейкі, размешчаную побач з нашай канторай, назвалі імем Івана Шубіна. Чаму? Хто ён такі – Шубін? Аказваецца, па звестках гарадскіх улад, узятых, па ўсёй верагоднасці, з публікацый у рэспубліканскім друку і з 11-га тома Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, Іван Філарэтавіч Шубін – удзельнік грамадзянскай вайны на Беларусі, узнагароджаны трыма (!) ордэнамі Чырвонага Сцяга. І нарадзіўся ў Вілейцы.

На гэтым можна было і супакоіцца. Хіба толькі на падставе матэрыялаў, што захоўваюцца ў Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеі, падрыхтаваць свой матэрыял пра героя. Але ўзніклі сумненні: чаму Іван Філарэтавіч, прозвішча якога не характэрнае для нашых мясцін, нарадзіўся ў Вілейцы? Дзе шукаць карані Шубіных? З дапамогай работнікаў музея Анатоль Валянцінавіч і высветліў, што Іван Шубін, неабгрунтавана рэпрэсіраваны і расстраляны ў 1937 годзе, ніякага дачынення да Вілейкі не мае. Ён і сапраўды нарадзіўся ў 1881 годзе, але не ў Вілейцы, а ў вёсцы Саранчаны на Пастаўшчыне.

Вось так 15 гадоў таму і пачаўся сур'ёзны занятак А.Рогача гісторыка-краязнаўчай работай, пра якую добра ведаюць чытачы "Рэгіянальнай газеты". Варта толькі звярнуць увагу на яго змястоўныя публікацыі апошніх месяцаў: "Вілейскі маёнтак Агінскіх Ганута", "За нашу і вашу свабоду", "Наш зямляк Адам Гурыновіч – вядомае і невядомае" і іншыя.

## Загадкі першай сусветнай

Калі раз'язджаў па камандзіроўках (а некаторыя аб'екты Вілейскага РЭС размешчаныя і за межамі Вілейшчыны), Рогач пачаў прыглядацца да акопаў і бліндажоў першай сусветнай вайны. А іх вакол – шмат. Тады на Вілейшчыне і Мядзельшчыне доўга трымалася лінія фронту, а калі аднавіліся баі, то і ў іх загінулі тысячы вайскоўцаў з абодвух бакоў, пра што сведчаць салдацкія захаванні, у прыватнасці, нямецкія могілкі паміж Мулярамі і Золькамі. Усё ўбачанае патрабуе навуковага даследавання, і Анатоль Валянцінавіч працуе і над гэтай праблемай. З радасцю даведаўся ён, што вядомы ў рэгіёне работнік культуры Барыс Цітовіч узняў пытанне аб стварэнні на Вілейшчыне музея гісторыі першай сусветнай вайны.

Публікацыі А.Рогача, па сведчанні некаторых настаўнікаў, сталі дапаможным матэрыялам пры выкладанні гісторыі Беларусі і роднай літаратуры. Напрыклад, у літаратурным музеі Ільнянскай СШ яны захоўваюцца ў асобнай папцы.

Пазнаёміўся я з Рогачам у яго рабочым кабінеце. Калі пакідаў цікавага субяседніка, звярнуў увагу на шашкі, расстаўленыя на ніжняй паліцы кніжнай шафы:

## Шашкі

— А гэта што – таксама хобі?

— Як вам сказаць,.. Напэўна, так, — усмешкай на ўсмешку адказаў Анатоль Валянцінавіч. – Задача? Белыя пачынаюць і зводзяць на нічыю. А мне здаецца, пры такой пазіцыі можна і выйграць. Пасля работы паспрабую заняцца рашэннем.

Аказваецца, мой новы знаёмы з'яўляецца кандыдатам у майстры па шашках. І гэты занятак лічыць не лішнім: шашкі добра трэніруюць памяць.

Барыс МАНЦЭВІЧ.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

## Чаму чытаеце "РГ"?



**Бэці Аўдзеенка, дырэктар дзіцячай музычнай школы:**

– Падабаюцца цікавыя матэрыялы аб падзеях і людзях горада і рэгіёну і свой незалежны погляд на іх. Асабліва цікаўлюся гістарычнымі артыкуламі **Міхаіла Філістовіча**, з якім асабіста знаёмая, і **Анатоля Рогача**. Хачу пажадаць газеце заставацца незалежнай у сваіх поглядах.



**Наталля Шмакава, загадчыца аддзела інфармацыі Маладзечанскага гарвыканкома:**

– Прывабліваюць прыгожы дызайн. Гэтым ваша газета выгадна адрозніваецца ад іншых. Яшчэ адзначу, што вы аператыўна рэагуеце на падзеі ў горадзе. Мне больш за ўсё ў газеце падабаецца вашая гістарычная старонка – «куфэрак».



**Алег Красноў, афіцэр-адстаўнік, сталяр:**

– "РГ" трымае мяне ў курсе жыцця нашага рэгіёну. Хацелася б у газеце прачытаць тлумачэнні да асноўных нашых законаў. А то рыхтуецца столькі новых дэкрэтаў, указаў і пастаноў, што разабрацца ва ўсім гэтым вельмі цяжка.



**Святлана Рагуновіч, гаспадыня:**

– Чытаю "РГ" даўно, бо цікава ведаць пра падзеі ў сваім і суседніх раёнах, тым больш, што маці жыве на Вілейшчыне. У апошніх нумарах спадабалася, што ўвялі рубрыку "Пытайцеся-адказваем". Цяпер кожны чытач праз газету можа атрымаць адказ на любое пытанне.

Экспрэс-апытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.

# Беларускі немец з Астраўца

## Немец і беларуска пасля шматгадовай вандроўкі па свеце жывуць у Астраўцы

**Сярод больш як сотні сямей з Гомельшчыны, што напачатку дзевяностых папоўнілі спісы жыхароў Астравецкага раёна, падганяемыя страхам за будучыню – сваю і дзяцей, які пасля Чарнобыльскай аварыі назаўсёды пасяліўся ў іх сэрцах, ёсць сям'я сапраўды унікальная.**

Калі пераважнай большасці перасяленцаў гэтая змена месца жыхарства далася цаной вялікіх сумненняў, перажыванняў, трывог – як там усё будзе на новым месцы, у чужых людзях? – то гэтыя немаладыя ўжо, у перадпенсійным узросце людзі ўзняліся са свайго абжытага селішча адносна лёгка, можна сказаць, прывычна. Ды і то сказаць: усе, хто пераязджаў разам з імі, мяняў прапіску ў першы раз, самае вялікае – у другі. А яны і сказаць з упэўненасцю не змаглі б дакладна, якім па ліку быў у іх адрас, каторае месца жыхарства. Адно адчувалі дакладна: апошняе, бо больш пераездаў жыццё ім не абяцала.

...У іх вельмі арыгінальнае прозвішча – Шмельцле: хто чуе ўпершыню, абавязкова перапытае, прычым па літарах. Хоць гаспадар не бачыць у ім нічога асаблівага: самае звычайнае прозвішча, толькі што нямецкае. Гэтаксама, як і яго імя: Гуга Бруна Отавіч. Там, на Каўказе, у нямецкай вёсцы, дзе ён нарадзіўся і пражыў першыя сем гадоў жыцця, яно ні ў кога не выклікала павышанай цікаўнасці.



Беларуска Яўгенія Канстанцінаўна і яе муж Гуга Бруна Отавіч Шмельцле разам з унучкай.

### Азербайджанскія немцы

Маці яго звалі Барбара, а яе бацьку – Міхель (гэта ўжо потым, шмат пазней, у пашпарце яе запісалі як Варвару Міхайлаўну – так і памерла яна з рускім імем, патомная немка, якая нават у глыбокай старасці гаварыла па-руску з вялікім акцэнтам, а часта ў размове з кім-небудзь неўпрыкмет нават для сябе пераходзіла на родную, нямецкую). Родам яна была з Саратава, з паволжскіх немцаў. А ў трыццатых гадах паехала ў госці да сваёй цёткі ў Азербайджан. Тая жыла ў вёсцы, дзе кампактна пражывалі немцы, там нават школа была нямецкая. І вось закахалася Барбара ў тутэйшага хлопца Ота Шмельцле, выйшла за яго замуж — ды так і засталася жыць у нямецкай вёсцы ў Азербайджане. У 1933 годзе нарадзіўся ў маладых сын, першынец, якога і назвалі Гуга Бруна. Дарэчы, нягледзячы на ўсе нягоды, якія затым давялося перажыць сям'і, у яго захавалася пасведчанне аб нараджэнні – старэнькае, пацёртае, выпісанае на трох мовах – азербайджанскай, нямецкай і рускай. Калі затым Гуга Бруна Отавіч атрымліваў пашпарт, рускі варыянт аказаўся моцна зацёрты, а з нямецкай мовы месяц нараджэння ліcтапад (nowember) пераклалі як люты – чамусьці бюракратам з пашпартнага стала падалося, што гэта тое самае, што februar. Сам ён адразу ў блытаніне не разабраўся, а калі высветлілася, што да чаго, то выпраўляць памылку было ўжо позна – так у яго атрымалася два дні нараджэння.

**Гуга Бруна Отавіч атрымліваў пашпарт, рускі варыянт аказаўся моцна зацёрты, а з нямецкай мовы месяц нараджэння лістапад (nowember) пераклалі як люты – чамусьці бюракратам з пашпартнага стала падалося, што гэта тое самае, што februar.**

Пасля Гугі ў сям'і нарадзіліся яшчэ дзве дзяўчынкі – адна, на жаль, неўзабаве памерла. І ўсё было ў сям'і Шмельцле, за выключэннем гэтай трагедыі, добра і дружна. Ды прыйшоў 1941 год. Фашысцкая Германія напала на Савецкі Саюз. І ўсе, хто меў у пашпарце нацыянальнасць "немец", аўтаматычна былі залічаны ў спісы патэнцыяльных ворагаў.

### Казахстан

Аднойчы за імі прыйшлі. Усіх жыхароў вёскі, усіх немцаў – старых, малых, мужчын, жанчын, дзяцей – пагрузілі ў эшалон і павезлі. Куды – ніхто не ведаў. Праз колькі дзён цягнік спыніўся ў Казахстане. На станцыі падыходзілі "купцы" – прадстаўнікі мясцовай улады – і выбіралі сабе "тавар". Іх сям'я трапіла ў вёску. Пасялілі іх кватарантамі (не асабліва жаданымі) да мясцовых жыхароў. Маці пайшла працаваць у калгас. А бацьку тут жа забралі ў працоўную армію. "Тая ж самая турма",— тлумачыць Отавіч. Спачатку Ота працаваў у Карагандзінскай шахце, затым перавялі пад Маскву. Там ён прапаў без вестак. Не на вайне – на працоўным фронце. І колькі яго потым ні шукалі родныя, не змаглі дабіцца ніякіх звестак – дзе падзеўся іх муж, бацька і сын, ці жывы ён, як загінуў, калі яго няма. На ўсе запыты адказам было мёртвае маўчанне.

**Барбара засталася адна з двума дзецьмі на руках, сярод чужых, па-варожаму настроеных людзей, не ведаючы нават мовы – спачатку яе вучылі, гуляючы з мясцовымі дзецьмі, Гуга і Ірэна, а ўжо потым ад іх даведвалася значэнне незразумелых слоў маці.**

### Ваенны час

Барбара засталася адна з двума дзецьмі на руках, сярод чужых, па-варожаму настроеных людзей, не ведаючы нават мовы – спачатку яе вучылі, гуляючы з мясцовымі дзецьмі, Гуга і Ірэна, а ўжо потым ад іх даведвалася значэнне незразумелых слоў маці. У вёсцы многія праводзілі на фронт мужоў, сыноў, родных і кожны дзень з надзеяй і страхам чакалі вестачак. Напэўна, не менш, чым родныя, малілі Бога аб незнаёмых салдатах нямецкія жанчыны: калі каму-небудзь прыходзіла пахаванка, вінаватымі адразу станавіліся яны, сасланыя немцы. "Фашысты праклятыя!"—крычалі ў твар ні ў чым не павінным людзям, пацярпеўшым ад вайны не менш, а можа, і больш – бо ім нават не было дадзена права загінуць на фронце героямі. І выганялі з хаты на мароз. Так, гора тых, хто страціў мужа ці сына, можна было зразумець. Але ніхто не хацеў зразумець і паспачуваць ім, бязвінным ахвярам вайны...

### Пасля вайны

Барбару таксама хацелі забраць у працоўную армію. Што яе выратавала, Отавіч не памятае. Але гэтая маленькая жанчына – яна заўсёды, нават у самыя цяжкія часы, заставалася жанчынай: прыгожай, бедна, але чыста і акуратна апранутай – здзейсніла своеасаблівы мацярынскі подзвіг: нягледзячы ні на што, яна выцягнула, падняла сваіх дзяцей. Жылося ім неймаверна цяжка. У калгасе працавалі за працадні, ды і тыя Барбара выбірала авансам якой-небудзь пацярухай, каб забоўтаць дзецям хоць якую поліўку. Ні гаспадаркі, ні якой-небудзь грады ў іх не было. На спагаду і падтрымку мясцовых разлічваць таксама не даводзілася. Выратоўвала сям'ю толькі неверагодная працавітасць жанчыны ды яе неймаверная ашчаднасць: яна заўсёды ўмела нават з нічога нешта прыгатаваць.

Калі ў 1946 годзе ў вёску прыехаў вярбоўшчык і ўжо, не зважаючы на нацыянальнасць, стаў "сватаць" на работу ў горад – на будоўлю, Барбара ўхапілася за гэтую прапанову, як за выратавальны круг. Так, і там трэба было цяжка і многа працаваць. Так, і там было галадна і холадна. Але! У іх ужо быў свой, хоць малюсенькі, куток! Ім давалі хлеб па картачках: 600 грамаў на таго, хто працаваў, і па 300 – на кожнага ўтрыманца. А на заробленыя грошы яшчэ можна было падкупіць якое вядро бульбы, паўпуда мукі, крышку алею – о, то ўжо быў не голад! А там і Гуга пайшоў працаваць – рана, з 14 гадоў, пра якую-небудзь адукацыю ён не мог нават і марыць, трэба было дапамагаць маці.

### Сустрэча з лёсам

Яны будавалі чыгунку. Там, на будоўлі, і сустрэў нямецкі хлопец Гуга палескую дзяўчыну Жэньку. Тая ў 1959 годзе ўслед за стрыечным братам прыехала ў Казахстан – за рамантыкай, за добрымі заробкамі. А як аказалася – за сваім лёсам. Напэўна, пасталеўшай ужо Барбары хацелася, каб у яе любімага сына, з якім яна ніколі амаль да самай сваёй смерці не разлучалася, жонка была таксама "са сваіх", немка. Але з каханнем не паспрачаешся, яно мацней за ўсе межы – і нацыянальныя, і рэлігійныя.

І пачалося ў маладой сям'і Шмельцле, у якой неўзабаве з'явіліся на свет дзве дачушкі – Ірына і Люда – вандроўнае жыццё: прыедуць на нейкі раз'езд, дзе трэба будаваць чыгуначныя пуці, станцыю і г.д., паставяць свой вагон, які служыў ім домам, і працуюць ад цямна да цямна. Пабудуюць – прычапілі вагон да цягніка і паехалі далей. Так і аб'ехалі паўсвету з усім сваім хатнім скарбам, з малымі дзецьмі і старой Барбарай. Аднойчы ў час аднаго з такіх пераездаў іх дом-вагон раскалыхала на недабудаванай як след дарозе – і вялізная драўляная шафа ўпала прама на дзіцячы ложачак, у якім спала маленькая Ірынка. Шчасце, што ложачак быў жалезны, і гардэроб затрымаўся на трывалых поручнях – дзіця нават не прачнулася.

### Пераезды

Даволі доўга жылі яны ў Сярэдняй Азіі, у Тэрмезе – тады назва гэтага горада, як пагранічнага з Афганістанам, яшчэ не была знаёма кожнаму ў краіне. Затым пераехалі ў Расію, у Арэнбургскую вобласць, горад Бузулук. Там дзяўчаты, Іра і Люда, закончылі школу, набылі спецыяльнасць. Здавалася, што гэта ўжо апошняя іх прыстань, тым больш, што па свету павандравалі ўжо нямала: амаль чвэрць веку, 24 гады.

У тыя часы многія немцы сталі выязджаць у Германію – хто да радні, а хто і проста так – супляменнікі прымалі ўсіх. Калі пра гэта расказалі старой ужо Барбары, яна адмоўна пакруціла галавой:

—Ніхто нас там не чакае. Мая радзіма – тут.

Ды чым бліжэй да старасці, тым больш цягнула Яўгенію Канстанцінаўну у Беларусь, на родную Хойнікшчыну, дзе яе заўсёды з нецярплівасцю чакалі бацькі, сястра – з гадамі кожны пачынае разумець, што менавіта гэта: родныя людзі, іх падтрымка – галоўная каштоўнасць у жыцці. Нялёгка было ўгаварыць Отавіча на пераезд, але неўзабаве і ён здаўся: сям'я перабралася ў Хойнікі. Там яшчэ 5 гадоў жылі на прыватнай кватэры – ужо выдаўшы дачку замуж і маючы ўнучку. І нарэшце атрымалі сваё доўгачаканае жыллё.

**Яўгенія Канстанцінаўна ўсё жыццё працавала на будаўніцтве – тынкоўшчыцай, малярам, словам, аддзелачніцай. А Отавіч – той увогуле майстар на ўсе рукі, нездарма ж за сваю працу ўзнагароджаны ордэнам Працоўнай Славы III ступені і шматлікімі медалямі. Так што сваёй нястомнай працай яны зарабілі яшчэ адну кватэру – на гэты раз у Астраўцы.**

**Ды тут рвануў Чарнобыль. Пакуль вынікі аварыі замоўчваліся, яны, як і ўсе, думалі, што нічога асабліва страшнага не здарылася. А калі парасткі галоснасці прарвалі плаціну хлусні і стала зразумела, што Чарнобыль – гэта надоўга, магчыма, назаўсёды, і наступствы аварыі могуць быць усялякія**

### Чарнобыль

Ды тут рвануў Чарнобыль. Пакуль вынікі аварыі замоўчваліся, яны, як і ўсе, думалі, што нічога асабліва страшнага не здарылася. А калі парасткі галоснасці прарвалі плаціну хлусні і стала зразумела, што Чарнобыль – гэта надоўга, магчыма, назаўсёды, і наступствы аварыі могуць быць усялякія, непрагназуемыя – Яўгенія Канстанцінаўна, як яна прызнаецца, спалохалася. Не столькі за сябе, колькі за дачок, за іх будучыню, за малую ўнучку.

Калі людзі сталі выязджаць у чыстыя мясціны ў пошуках жылля, спытала, бо не верыла ва ўдачу, у Мікалая Іванавіча Кавалёва, які набіраў людзей, каб будаваць жыллё для перасяленцаў у Астраўцы:

—А мяне ці возьмеце?

—Чаму ж не? Прыязджайце, — быў адказ.

Трэба сказаць, што Яўгенія Канстанцінаўна ўсё жыццё працавала на будаўніцтве – тынкоўшчыцай, маляром, словам, аддзелачніцай. А Отавіч – той увогуле майстар на ўсе рукі, нездарма ж за сваю працу ўзнагароджаны ордэнам Працоўнай Славы III ступені і шматлікімі медалямі. Так што сваёй нястомнай працай яны зарабілі яшчэ адну кватэру – на гэты раз у Астраўцы.

### Астравец

Цяпер абое Шмельцле – на заслужаным адпачынку. Але без справы сядзець не могуць: даглядаюць дачу, трымаюць невялікую, па сваіх сілах, гаспадарку. Чакаюць у госці ўнучку, непаседу Верку, і дачку. Яны – адны з нямногіх перасяленцаў, хто не хварэе на настальгію па палескіх мясцінах.

—Мне тут падабаецца,—гаворыць Яўгенія Канстанцінаўна. – Усё побач: лес, ягады, грыбы. Прырода прыгожая, паветра чыстае. Чаму б і не жыць? Вось толькі каб здароўе не падводзіла...

Яго і пажадаем нашым героям – беларускаму немцу Гуга Бруна Отавічу (ён, немец па нацыянальнасці, нарадзіўся ў Азербайджане, вырас у Казахстане, жыў ва Узбекістане і Расіі, цяпер з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь) і яго вернай спадарожніцы жыцця Яўгеніі Канстанцінаўне Шмельцле.

**Ніна РЫБІК**, Астравец.

# Калгас «Хрэновы»

**На шчасце, зіма завяршылася. Ажыло ўсё наваколле – дрэвы, птушкі... Усё ў стадыі вясенняга, сонечнага панавання. Загаманіла, завіравала жыццё і ў калгасе "Хрэновы".**

Павылазілі са сваіх хат калгаснікі, пачалі шкрэбацца-корпацца на сваіх падворках. То дзверы бразнуць, то ў хляве зарыпяць, то нейкі рух пад паветкаю ў таго-сяго заўважыцца. А зусім юны Цімончык (ён летась калгаснікам стаў) дык усё вакол капца з бульбай круціцца. Маці яго, праўда, з хаты гэта ўгледзеўшы, нешта крычаць пачала ды ў акно барабаніць. Зразумелым усё стала, калі да Цімончыка (а завуць яго яшчэ ў вёсцы Бібуцы Цімоня-дэмакрат) з суседняга агарода галасна, але неяк і крыклівасуха, звярнуўся сусед Піліп:

— Ты канчай гэтыя свае метады, Цімоня... Кол у капцы пакінь, а я табе пад лапату навенькі чаранок дам. На мятлу хацеў пакінуць, ды гляджу, што таўставаты.

Агароды капаць яшчэ рана. Ды невядома, ці трэба і капаць іх. У калгасе з'явіўся сёлетняй зімою новы праект. На справаздачна-выбарным сходзе яго разгледзелі і агульным галасаваннем зацвердзілі. А пачалося ўсё з леташняй восені.

Цёплае лета дазволіла сабраць неблагі ўраджай збожжавых – упершыню за апошнюю пяцігодку выйшлі на 15 цэнтнераў з гектара. Старшыня Павел Пятровіч Недаглуздаў абрадаваўся настолькі, што ажно пяць хвілін па мясцовым радыё выступаў. Праўда, як кажуць дасведчаныя людзі, і напаіць жа таго раённага журналіста давялося як след – хлопец ён хаця і хліпкі, а ад старшыні дужа не адставаў. Жлукціў і ў асалоду, і пасля, ажно пакуль не zаваліўся на задняе сядзенне старшынёвай "Волгі". Аўтамабіль, што трэба, — давёз, даімчаў майстра мікрафона ў раённую сталіцу за лічаныя хвіліны.

Праўда, хтосьці з калгаснікаў дазволіў сабе сказаць: "Здаецца, у іншых гаспадарках і пад трыццаць цэнтнераў сабралі...". Дарэмна дазволіў, бо старшыня на тое імгненна адрэагаваў: "З вамі больш, як дзесяць, і не змалацілі б. Радуйцеся, сувязі дапамаглі". Магічныя "сувязі" хутка праваліліся. Бо ўжо ў лістападзе пачалі шукаць тыя "15 цэнтнераў з гектара", удакладняць, колькі на элеватар пайшло, колькі іншым гаспадаркам аддалі – каму за камбайн пазычаны, каму за тону саляркі, а каму яшчэ за што. І канцы з канцамі не сышліся. Старшыню выклікалі наверх, павесілі на яго чарговую вымову і спярша там, "на версе", крыху супакоіліся. Усё адно дзе ж ты лепшага знойдзеш.

Ды жыццё распарадзілася іначай. Паспрабаваўшы разлічыцца з даўгамі па зарплаце, у снежні здолелі толькі палову аддаць з заробленага. За чэрвень-верасень. А тут яшчэ зверху забаранілі кароў прадаваць. Маўляў, пагалоўе губляць нельга ніякім чынам. Яно і справядліва: не будзе кароў – не будзе малака. Праўда, зімою яго і без таго няшмат было – дзвесце літраў. Здаралася, што каторая з кароў больш як паўтара і не давала. Ды і лета ж добранькае для збажыны было, а вось сена дужа і не прыдбалі.

Сходы збіралі, пераЖывалі людзі. За фермамі праўленне калгаснае адказных прызначыла. З апошнімі, праўда, клопатаў шмат было. Фермаў у гаспадарцы ажно пяць. Кароў на кожнай, праўда, не дужа шмат — па адной-дзве даяркі ўпраўляюцца. Ёсць там і загадчыцы фермаў. Але ж адказных, правяраючых туды, ды і за калгасным мехдваром прызнач, то і кантора абязлюдзее. Ды і як галоўнага бухгалтара, галоўнага эканаміста ці таго ж касіра на жывёлагадоўчы фронт адпраўляць, калі яны ў большай ступені спецыялісты эканамічнага накірунку. Марнаваў-марнаваў сваю галаву старшыня, ды і раптоўна атрымаў сігнал аднекуль зверху. Быццам чыйсьці голас прадыктаваў: "У адказныя – загадчыка мясцовай бібліятэкі і дырэктара сельскага Дома культуры!". Пазваніў у раён. На другім канцы проваду – удакладненне: "Прышліце пісьмовы запыт". Няхітрая справа – разам з жонкай за вечар накаталі пісьмо. Наступнай раніцай пазычыў у суседнім калгасе пішучую машынку. Мог бы і там надрукаваць. Але ж свая сакратарка ёсць. Ды і дзяўчына гаваркая, пра пісьмо таму-сяму раскажа. Нічога ж дрэннага ў тым няма – няхай ведаюць, што ён, галава іх, без справы не сядзіць, аб нечым рупіцца.

Не дапамаглі і адказныя. Ужо ў лютым кармы закончыліся. Раён спярша цісн уў на суседзяў: маўляў, дапамажыце. Пасля з вамі разлічацца. Нечым пакрысе дапамаглі. Але ж тым і самім трэба жыць. Тады раённае начальства прыехала ў Бібуцы цэлай дэлегацыяй. Некалькі начальніцкіх выступленняў змянілася грунтоўным дакладам старшыні. Пералічыўшы лічбы леташняга ўраджаю, расказаўшы пра тое, што надвор'е падвяло з кукурузай, а рынак – з цэнамі на выраблену прадукцыю, Павел Пятровіч Недаглуздаў асаблівы акцэнт зрабіў на арганізацыйных сваіх намаганнях. Пералічыў усе каманды, якія аддаваліся зверху, і падкрэсліў, як хутка яны фіксаваліся і як хутка спецыялісты гаспадаркі і радавыя калгаснікі прыступалі да іх выканання. Недаглуздава старшынёй пакінулі. Па-першае, ніякай альтэрнатывы не было. Праўда, усё той жа Цімоня-дэмакрат спрабаваў нешта ўслых пракукарэкаць. Праўда, дужа яго і не пачулі. Хіба што самы высокі начальнік злавіў Цімоніна востранькае: "Вы да такой сітуацыі нас давялі, то давайце і параду, што далей рабіць".

Тут і закіпеў начальнік. А самі вы, маўляў... Што самі зрабілі? Дзе малако? Чаму дзяцей усіх у горад паадпраўлялі? Чаму такая нізкая ўраджайнасць? Як быццам начальнік і не ведае, што калі гною не дасі... Тут, мусіць, і да раніцы лямантаваў бы высокага рангу функцыянер, калі б не падала голас Ганна Мікодава.

— Што мы як тыя горкія небаракі... Няўжо не выжывем?! І за царом вунь як горка людзі жылі!..

— І сапраўды, — уступіла ў размову начальніца з раёна, якая дагэтуль маўчала, — да вясны галоўнае перакідацца. Каб калгас разлічыўся з даўгамі па зарплаце з вамі, то можна і кароў прадаць. Павінна хапіць. А мы папросім, каб у парадку выключэння мясакамбінат з вашай гаспадаркай адразу разлічыўся, а не цягнуў да наступнага Новага года. А там, глядзіш, увесну нешта і пасееце. Трэба было б і нейкія падсобныя промыслы прыдумаць. Мо' ёсць у вас якія майстры...

З майстроў успомнілі аднаго Бондара. Ды і той з калгаса даўно ўжо звольніўся. Леснікам цяпер працуе. Наступіла паўза. Праз колькі хвілін яе перарвала ўсё тая ж Ганна Мікодава:

— А чаму б, таварышы калгаснікі, нам усур'ёз не заняцца хрэнам. Усе вы ведаеце, колькі яго буяе на нашых агародах. Каштуе ж ён, я вам скажу, — 500 рублёў слоічак з-пад маянэзу. Калі грошы не плацілі, то я дваццаць слоікаў у Мінск адвезла. Праўда, за электрычку ў два канцы 2 тысячы заплаціла. Ды калі ўсё на сур'ёзную аснову паставіць, то з таго хрэну прыбытак можа быць...

З паўгадзіны прапанова абмяркоўвалася. Больш – у плане эмацыянальным. Трактарыст Пятрок усё соладка мармытаў: "Ён хоць і хрэн, але пад гарэлачку з кавалачкам сальца... Смаката...". Прыблізна тое ж сказаў і старшыня. Праўда, тут жа схамянуўся ў думках: "А што скажуць раённыя кіраўнікі?..".

З эмацыянальнага абмеркавання размовы перайшлі ў сур'ёзнае русла. Выступіла і калгасны эканаміст. "Адчуваю, што за выгадную справу бяромся, амаль што ніякіх затрат. Сеяць не трэба, бо сам расце. Дзёрці хрэн можна і на ўласных тарках. Адно пытанне – слоікі", — заўважыла жанчына.

Самы галоўны начальнік з раёна таксама падтрымаў пачын калгасніцы Ганны. Заначыў пры гэтым, што ідэя вартая ўвагі і іншых. Што адсюль, магчыма, пачынаецца новы накірунак, новая галіна ў сельскай гаспадарцы краіны – хрэнаробства. Не выключана, што з часам можна будзе зрабіць яе экспартнай. І нават ужо сёння трэба думаць пра банкаўскі крэдыт пад такі інавацыйны, сучасны праект. Варта падрыхтаваць і адпаведную абвестку ў Інтэрнеце. Няма ніякіх сумненняў, што заўтра пад новую справу прыйдуць крэдыты. Гаспадарка зможа стаць першым акцыяніраваным прадпрыемствам. А следам – і свая перапрацоўка, гандаль... Ну і, канешне ж, рэстаран "Хрэновы" ў самым цэнтры беларускай сталіцы.

Старшыня пад такія развагі ледзьве соладка не захрапеў. Казаў ён сваёй кабеце, што будзе толк некалі і з яго працы. Заўтра прыйдуць і грошы, і слава. Ну, і Ганна, ну, і малайчына!..

У размову ўклінілася і начальніца. Маладзенькая для сваёй пасады, справу сваю яна, пэўна ж, ведала. Бо пытанне паставіла адразу рубам:

— Паколькі гаспадарка мяняе накірунак, вызначае новыя перспектывы вытворчага, эканамічнага развіцця, то трэба змяніць і назву калгаса.

— А як жа мы раней называліся? – прарэзалася ў некага на "галёрцы!. – Ці не "Трыццаць ураджайных гадоў"!..

Зала, здаецца, пытанне раённай начальніцы пачула і зразумела. Падняў руку і папрасіў слова былы калгасны каваль Васіль. Ён даўно ўжо на пенсіі, але на сходы заўжды прыходзіў.

— Прапаную назваць наш калгас імя Міклухі-Маклая, — агучыў і моўчкі сеў.

Начальніцу нешта не задаволіла, і яна перапытала ў Васіля:

— Дзядуля, а чаму менавіта імем Міклухі-Маклая?

— Ведаю, што быў ён падарожнікам, шукаў нязведаныя краіны. А мы цяпер пачынаем новую справу, то нечым да таго ж Міклухі і падобныя.

Раённая дама адразу ж запярэчыла. Аргументы знайшліся вартыя. Маўляў, Міклуха-Маклай — рускі падарожнік. Адразу можа апазіцыя звярнуць увагу. А ў нас і свае падарожнікі ёсць – Чэрскі, Ігнат Данейка...

— Ды навошта нам сюды ідэалогію прымешваць. Галоўная палітыка сялян – працаваць на зямлі, — рэзюмавала жанчына. – Давайце назавём калгас "Хрэновы". Здаецца, проста і ясна. А галоўнае – адпавядае рэчаіснасці.

За прапанову прагаласавалі дружна.

...Кароў прадалі. Заробак калгаснікам у "Хрэновым" выплацілі. Не паверыце, свята ў Бібуцах было што трэба. Замочвалі не столькі зарплату, колькі новую справу. Неўпрыкмет і вясна прыйшла. Інвестары, як казаў старшыня, ужо атрымалі інфармацыю і зараз рыхтуюць рашэнне. А пакуль, параіў усім Недаглуздаў, каго дзе на вуліцы стрэў, даставаць рыдлёўкі ды выкопваць карэньчыкі. У каго няма тарак, то няхай пішуць заяўкі галоўнаму эканамісту. Яна збіраецца наведацца ў раён – на сходзе ж абацялі дапамагчы. Што да слоікаў, то тут справа крыху складаней. Але, расказвае ўсім Недаглуздаў, пад хрэнавы ўраджай сёлетняга года абяцалі вырашыць пытанне з тарай у мясцовым райспажыўсаюзе. Праўда, просяць на рэалізацыю хрэн, зафарбаваны сталовымі бурачкамі. Вось пад іх закуп ужо і крэдыт давядзецца браць.

У астатнім – поўны парадак. Старшыня ўжо двойчы выступаў па радыё – справу ж у "Хрэновым" пачынаюць новую, то і трэба, каб ведаў пра яе ўвесь свет.

**Міхась САБАТНЯ.**




Малюнак Валянціна ТАРХАНА.

■ ШТО ХВАЛЮЕ ШКОЛЬНІКАЎ

## 10-бальная сістэма ацэнкі ведаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У гэтым годзе ўсе беларускія школы перайшлі на 10-бальную сістэму ацэнкі ведаў. На тэлебачанні і ў друку не раз абмяркоўвалася гэтае пытанне, аднак ніхто не адказаў, якую сістэму выбірае большасць.**

Мы, юныя журналісты, апыталі на гэты конт 20 чалавек: вучняў, настаўнікаў, бацькоў. Аказалася, што амаль палове падабаецца новая сістэма. Яе прыхільнікі лічаць, што яна больш дакладна і справядліва ацэньвае веды.

53% апытаных кажуць, што 10-бальная сістэма нязвыклая і незразумелая, выклікае цяжкасці ў ацэнцы ведаў і для вучняў, і для бацькоў, і нават для саміх настаўнікаў. Многія выдатнікі не задаволеныя павышанымі патрабаваннямі новай сістэмы, бо "9" і "10" можна атрымаць толькі за творчы падыход і валоданне дадатковай інфармацыяй па прадмету. Што ж цяпер атрымае вучань, які проста добра вывучыць табліцу множання ці без памылак напіша дыктоўку? А вось для так званых двоечнікаў зроблена палёгка: іх не могуць пакінуць на другі год нават з адзнакамі "0" і "1".

Некаторыя лічаць, што пераход на 10-бальную сістэму аказаўся паспяховым. Выказвалася думка, што гэта трэба было рабіць паступова, ужо з пачатковых класаў. Калі б апытаным вучням далі магчымасць самім выбіраць сістэму ацэнкі ведаў, то большасць з іх пакінула б 5-бальную.

**Ганна ХАДАСЕВІЧ,**
**гурток "Юны журналіст" цэнтра пазашкольнай работы.**

## Усяго 0,04%

**У нашай краіне 0,04% людзей з'яўляюцца непісьменнымі.**

Пачуўшы гэтую лічбу, я жахнулася: гэта ж прыкладна 4-5 школ нашага горада. Няўжо гэта так мала, што вядучая на тэлебачанні пракаментавала гэтую лічбу як "усяго 0,04%".

Мне на ўспамін прыходзіць Браслаўскі раён Віцебскай вобласці. Кожнаму з нас вядома гэтая назва як адно з найлепшых месцаў адпачынку ў краіне. Але ў гэтым маляўнічым куточку жывуць людзі, для якіх адукацыя з'яўляецца недаступнай. Спытаецеся, чаму?

Справа ў аддаленасці школ ад некаторых вёсак. Многім дзецям, каб наведваць школу, прыходзіцца праходзіць па 10 км у адзін бок. А калі на вуліцы зіма? Ёсць пытанні па ўзроўні адукацыі ў глыбінцы. Часта настаўнікамі ў такіх школах з'яўляюцца дзеці, якія самі надаўна скончылі гэтую школу. Да таго можна дадаць, што ў многіх вясковых школах няма такіх звычайных рэчаў, як камп'ютэр, добрыя падручнікі, хімічныя рэактывы...

**Яўгенія ФАЙЗУЛІНА,**
**11 "Б" клас беларускай гімназіі.**

■ ТВАЕ МЕСЦА

# Клопат педагога Ляговіча

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі мы прыехалі, каб напісаць аб загадчыку гарадскога аддзела адукацыі Уладзіміру Ляговічу, пачулі:**

– Вам прыйдзецца пісаць аб нашай рэгіянальнай сістэме адукацыі, нашых кіраўніках і спецыялістах устаноў адукацыі, нашых дасягненнях і праблемах. З імем Уладзіміра Андрэевіча звязана гісторыя станаўлення і развіцця адукацыі Маладзечна амаль за два дзесяцігоддзі. Ляговіч – аўтар многіх праектаў педагагічных эксперыментаў, інавацыйных новаўвядзенняў, якія вось ужо шмат гадоў ажыццяўляе каманда аднадумцаў.

З першых хвілін размовы з Уладзімірам Андрэевічам мы зразумелі праўдзівасць гэтых слоў. Увесь час мы чулі: «Мае настаўнікі», «Новыя тэхналогіі навучання і выхавання...», «Нашы залатыя алімпійцы...» і – ні слова аб сабе, сваім укладзе ў агульную справу.



Загадчык Маладзечанскага гарадскога аддзела адукацыі Уладзімір Ляговіч у свaім рабочым кабінеце з кубкам, які атрымалі летась маладзечанскія настаўнікі за працоўныя дасягненні.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Жыццёвы шлях

...Ён нарадзіўся на Маладзечаншчыне, у вёсцы Красоўшчына, у сям'і рабочых саўгаса. Уладзімір быў старэйшым у бацькоў, якія выхоўвалі траіх дзяцей.

У 1970 годзе Уладзімір Ляговіч закончыў Красненскую СШ і адразу ж паступіў на факультэт беларускай філалогіі ў Гродзенскі педінстытут. Гады вучобы прайшлі непрыкметна, і ў 1974 годзе Уладзімір вярнуўся на радзіму дыпламаваным спецыялістам.

Паслужны спіс Ляговіча фарміраваўся паступова: два гады настаўнічаў, шэсць гадоў быў намеснікам дырэктара школы, восем - дырэктарам у Смаргонскім раёне, пяць — метадыстам, затым інспектарам гарадскога аддзела адукацыі (дарэчы, тры гады курыраваў пытанні аховы правоў дзяцей).

У 1990 годзе закончыў гістарычны факультэт сталічнага педінстытута (Ляговіча цягнула да аналітыкі, эксперыменту, цікавіла палітыка). 5 чэрвеня 1995 года Уладзіміра Андрэевіча прызначаюць на пасаду загадчыка гарадскога аддзела адукацыі, дзе працуе ён і сёння. Менавіта тут па-сапраўднаму раскрыўся талент педагога-арганізатара, кіраўніка.

**З імем Уладзіміра Андрэевіча звязана гісторыя станаўлення і развіцця адукацыі Маладзечна амаль за два дзесяцігоддзі.**

Прафесійнае майстэрства, практычны вопыт, праца па самаадукацыі дапамагаюць Ляговічу бачыць вынікі дзейнасці кожнай установы, аб'ектыўна ацэньваць іх, планаваць перспектыву, распрацоўваць стратэгію і тактыку рэгіянальнай адукацыі. Станоўчая ацэнка рабоце аддзела адукацыі па забеспячэнні пачатку пераходу агульнаадукацыйнай школы на 12-гадовы тэрмін навучання дадзеная Міністэрствам адукацыі Беларусі.

### Прафесійнае майстэрства

Уладзімір Андрэевіч Ляговіч накіроўвае намаганні кіраўнікоў агульнаадукацыйных устаноў, супрацоўнікаў апарата гарадскога аддзела адукацыі на развіццё і далейшае ўдасканаленне працэсу індывідуальна-дыферэнцыраванага навучання школьнікаў, на стварэнне ўмоў для ажыццяўлення асобасна арыентаванага падыходу да навучання, развіцця і выхавання школьнікаў.

Асаблівы клопат праяўляе Уладзімір Ляговіч аб дзецях з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця: створаны дыягностыка-рэабілітацыйны цэнтр, сфарміравана група для грамадскага прытулку з ліку дзяцей дашкольна-школьнага ўзросту, якія засталіся без апекі бацькоў; існуе шырокая сетка інтэграванага навучання, сацыяльна-псіхалагічная служба ў кожнай школе Маладзечна.

Адкрыта школа для адораных дзяцей. Штогод каманда школьнікаў горада займае прызавыя месцы ў абласных алімпіядах. За тры апошнія гады 16 вучняў сталі пераможцамі рэспубліканскіх алімпіяд.

Педагог падтрымлівае і актыўна садзейнічае ўкараненню новых сучасных педагагічных тэхналогій і сістэм, аўтарскіх методык у практыку работы адукацыйных устаноў горада. Пад кіраўніцтвам Уладзіміра Ляговіча праводзіцца работа па павышэнні прафесійнага майстэрства настаўнікаў і, як вынік, - за 3 апошнія гады першае месца ў абласным конкурсе "Настаўнік года" занялі педагогі з Маладзечна.

Уладзімір Андрэевіч старанны працалюб, адкрыты чалавек, клапатлівы кіраўнік-падзвіжнік.

Герой нашага расповяду ўмела спалучае патрабавальнасць з павагай да асобы кіраўніка ўстановы, педагогаў, вучняў, бацькоў.

### Поспехі гарадской адукацыі

Шмат сіл і энергіі Ляговіч аддае рабоце з кіруючымі кадрамі рэгіёну. Ужо не адзін год вядзе праблемны семінар для дырэктараў школ "Творчы падыход да кіраўніцтва агульнаадукацыйнай школы".

Менавіта таму ў горадзе дастаткова высокі інтэлектуальны патэнцыял педагагічных кадраў: 48 педагогаў маюць акадэмічную ступень бакалаўра і званне магістра, 2 з'яўляюцца кандыдатамі педагагічных навук, тры настаўнікі вучацца ў аспірантуры, 156 педагогаў - выдатнікі адукацыі Беларусі, настаўніца рускай мовы і літаратуры С.І.Юрэвіч мае званне Заслужанай настаўніцы школ Беларусі, Н.З.Ласіцкі, настаўнік фізічнай культуры СШ № 8, - "Заслужаны трэнер БССР", 2 настаўнікі выяўленчага мастацтва школы мастацтваў - члены Саюза мастакоў Беларусі, тры - народныя майстры, 4 - кандыдаты ў майстры спорту. Уладзімір Андрэевіч ганарыцца гэтым.

**Паспяхова развіваецца міжнароднае супрацоўніцтва школ горада: СШ № 5, гімназія, школа мастацтваў - з адукацыйнымі ўстановамі Германіі; СШ № 3 - Францыі; СШ № 6 - Польшчы; СШ № 5 - Літвы.**

**Штогод каманда школьнікаў горада займае прызавыя месцы ў абласных алімпіядах. За тры апошнія гады 16 вучняў сталі пераможцамі рэспубліканскіх алімпіяд.**

Набірае новы вопыт гімназія, павялічылася колькасць школ з паглыбленым вывучэннем асобных прадметаў, у кожнай школе горада адкрыты профільныя класы ці класы з вывучэннем прадметаў на павышаным узроўні. Павялічылася колькасць ліцэйскіх класаў да 15. Вучні 1-11 класаў ахоплены рознымі відамі дыферэнцыяцыі.

Паспяхова развіваецца міжнароднае супрацоўніцтва школ горада: СШ № 5, гімназія, школа мастацтваў - з адукацыйнымі ўстановамі Германіі; СШ № 3 - Францыі; СШ № 6 - Польшчы; СШ № 5 - Літвы.

Атрымала далейшае развіццё работа па экалагічным выхаванні.

Асабліва добра гэта работа ладзіцца ў дашкольных установах №№ 17, 19, 25, 28,30; у СШ №№ 1, 2, 3, 5, 6, 9, 12, ЦПР. У СШ № 5 працуе дзіцячая экалагічная арганізацыя «Віта», у склад якой уваходзіць школьнае лясніцтва, за якім замацаваны ўчастак лесу плошчай у 30 гектараў. Арганізацыя «Віта» заняла другое месца ў рэспубліканскім конкурсе экалагічных праектаў «Зямля - наш дом», які арганізаваны беларускім фондам «Дзеці Чарнобыля».

### Кіраўнік-прафесіянал

...У сям'і Ляговічаў выхоўваюцца два сыны: Андрэй вучыцца ўжо ў Мінскім інстытуце кіравання і прадпрымальніцтва, Аляксей – у Мінскім каманднa-інжынерным інстытуце пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях РБ. Сыны выхаваныя, сумленныя, умеюць служыць справе.

Праца Уладзіміра Андрэевіча адзначана граматамі абласнога ўпраўлення адукацыі і Міністэрства адукацыі.

Добры, чулы, спагадлівы – мабыць, таму ля яго заўжды адчуваеш сябе ўтульна, псіхалагічна камфортна. Больш бы ў нас працавала гэткіх мудрых кіраўнікоў раённага звяна, як Уладзімір Ляговіч, дык і рэформа б не давала прабуксовак і педагогам, і дзецям бы жылося весялей і наша школа была б сапраўды інстытутам чалавека.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**дацэнт кафедры кіравання і выхаваўчай работы Мінскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў.**
**Алена МІХАЛЕВІЧ,**
**метадыст Мінскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў.**

■ СТАТУС

## Гімназій большае

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад мінулага чацвярга ў горадзе стала на 2 гімназіі больш.**

Новы статус атрымалі СШ №3 і СШ №6. Як сказаў Уладзімір Ляговіч, рашэнне надаць новы статус гэтым школам невыпадковае:

– Вучэбныя праграмы там фактычна адпавядаюць гімназічным.

Новыя гімназіі першы выпуск зробяць у наступным навучальным годзе. Цяперашнія 11-класнікі атрымаюць пасведчанні аб заканчэнні сярэдняй школы. Улічваючы тое, што сярэдняя агульнаадукацыйная школа мастацтваў з новага навучальнага года атрымае статус гімназіі-каледжа, 1 верасня дзверы адкрыюць адразу 4 гімназіі. Гэта на 3 больш, чым летась.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА.

## Вандалы на могілках

**ВІЛЕЙКА. На могілках, што па вуліцы 1 Мая, невядомыя пабілі некалькі помнікаў.**

Усе пабураныя помнікі – з дзіцячых магіл і былі зроблены з тонкіх белых мармуровых пліт. Менавіта гэткія помнікі зламаць найлягчэй. Зламыснікі мэтанакіравана шукалі і знаходзілі іх у розных месцах могілак. Рысы разбурэння помнікаў прыводзяць да высновы, што, найхутчэй, злачынства ўчынілі падлеткі з невялікай фізічнай сілай, але з вялікай упартасцю і надступным нахабствам.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

## Згарэў чалавек

**АШМЯНЫ. У райцэнтры згарэў 46-гадовы мужчына.**

Дом, дзе ён жыў, загарэўся 25 красавіка ў 3.05 ночы. Пажар тушылі амаль 4 гадзіны. Суседзі паведамілі аб загаранні позна: у агні ўжо быў дах. Мяркуецца, што прычына пажару – курэнне ў нецвярозым стане.

**Ірына РАБУШКА.**

## Пажар з-за попелу

**МЯДЗЕЛ. 26 красавіка пажар адбыўся ў вёсцы Ракуці Крывіцкага пасялковага Савета.**

А прычынай яго стаў попел, які людзі высыпалі непадалёку ад пабудоў. Вугельчыкі ў ім разгарэліся і прывялі да бяды. У выніку згарэлі 3 хлявы, была пагроза хаце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Дапамажыце міліцыі

Упраўленнем крымінальнага вышуку Мінскай вобласці ўстанаўліваюцца асобы двух дзяўчат, трупы якіх з прыкметамі гвалтоўнай смерці былі знойдзены ў лютым 2003 года на тэрыторыі Мінскага раёна.

Іх прыкметы: адной на выгляд 20-25 гадоў, на правай лапатцы ёсць татуіроўка памерам 5х4 см у выглядзе бясформенных фігур. Вядома, што дзяўчына была сірата і ў яе ёсць 2 браты. Адзін жыве ў Мінску, а другі – у Маладзечне, да яго яна і прыязджала. Раней быццам бы працавала ў Іспанскім пасольстве; другой каля 20 гадоў, у жніўні 2002 года ехала ад прыпынку "Мінскае мора" да Маладзечна і далей у Ашмяны.

Просім грамадзян, якім што-небудзь вядома наконт загінуўшых, паведаміць па мінскіх тэл.: 254-60-63, 259-14-12, 259-14-03 ці па тэл. у Маладзечне: 7-61-55, 7-14-46, 7-16-56.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 2.5 дзень | 2.5 вечар | 3.5 дзень | 3.5 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 738 | 741 | 742 | 742 |
| тэмпература паветра, °C | 11 | 9 | 17 | 10 |
| вільготнасць паветра, % | 77 | 82 | 77 | 82 |
| вецер, м/сек | 2-5 | 4-7 | 2-5 | 1-3 |

| Вільня | 2.5 дзень | 2.5 вечар | 3.5 дзень | 3.5 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 747 | 748 | 749 | 748 |
| тэмпература паветра, °C | 14 | 9 | 16 | 10 |
| вільготнасць паветра, % | 83 | 86 | 86 | 91 |
| вецер, м/сек | 4-7 | 4-7 | 2-5 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **Вучань першай школы.** Першая публікацыя музыканта і мастака Юрыя Церабуна з цыкла "Смаргонскія нататкі". Аўтар, дзяцінства і юнацтва якога звязанае са Смаргонню, расказвае пра сваіх школьных выкладчыкаў.
- **Салютуе Масква.** Вызваленне Маладзечна: як-гэта было.

## Гараскоп 5 – 11 мая



**Авен (21.03–20.04)**

Наогул, Венера азначае каханне, але, акрамя гэтага, яна дае нам магчымасць ператварыць жыццё ў задавальненне. Ваша справа, скарыстаецеся вы гэтай магчымасцю ці не. Гэта адаб'ецца і на вашым унутраным, і на знешнім дабрабыце. Пастарайцеся дасягнуць баланса паміж імі, і жыццё стане казкай.



**Цялец (21.04–21.05)**

Пастарайцеся весці сябе стрымана – не захапляйцеся заманлівымі прапановамі, пазбягайце рызыковых аперацый. Другая палова перыяду адзначана гармоніяй і душэўным спакоем. Пазбягайце крыку, не правакуйце сварак. Пастарайцеся захаваць у душы ўнутраны камфорт і раўнавагу. Лажыцеся раней спаць – магчымы прарочыя сны.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Будзьце цярплівымі, калі вам гэта ўдасца, інакш вы можаце моцна нашкодзіць сабе. Неабходнасць актыўнага ўдзелу ў многіх справах можа вывесці вас з душэўнай раўнавагі. Аб адпачынку прыйдзецца забыцца – клопаты не дазволяць прысесці ні на хвілінку. Затое вечарамі з'явіцца магчымасць прыемна правесці час сярод сяброў ці ў коле сям'і.



**Рак (22.06–23.07)**

Вам спатрэбіцца час, каб разабрацца ў сабе і ацаніць свае сілы. Магчыма, што вы атрымаеце вестку ад тых, з кім даўно не бачыліся. Сустрэча з даўнім сябрам ці сяброўкай можа стаць прыемнай. Справы не будуць вельмі мітуслівымі, а таму вы не будзеце адчуваць сябе змучанымі і стомленымі.



**Леў (24.07–23.08)**

Абставіны могуць запатрабаваць ад вас рашучых дзеянняў ці адказных рашэнняў, аднак вынікі будуць удачнымі. Не выключана, што мужчыны-Львы зноў заблытаюцца ў любоўных сетках, а жанчын-Львоў чакае сюрпрыз, прыемнае паведамленне ці падарунак ад блізкага чалавека.



**Дзева (24.08–23.09)**

Абмен меркаваннямі дапаможа многае высветліць, калі не шакіраваць. Бываюць выпадкі, калі вы схільныя ўпускаць тое, што вам не падабаецца, але ёсць і ўзнагарода за адстойванне праўды. Звярнуўшыся да суровай рэальнасці, вы пачнеце бачыць падводныя камяні дастаткова добра, каб дзейнічаць адпаведна.



**Шалі (24.09–23.10)**

Магчыма, дамашнія праблемы будуць цяпер не менш цяжкімі, чым нелькі тыдняў назад. Аднак вы высветлілі для сябе, што варта, а што не варта рабіць, каб выправіць сітуацыю. Дайце зразумець сваім блізкім, што вы гатовыя пайсці ім насустрач, каб дасягнуць мірнага рашэння. Астатняе будзе за імі.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Спрыяльны перыяд для паляпшэння матэрыяльнага стану, набыцця нерухомасці. Сёння галоўнае – нічога не пераблытаць і рабіць своечасова, не адкладваць на пасля. Пры такім падыходзе да справы поспех вам гарантаваны. Вялікая верагоднасць прыемнай сустрэчы са старымі сябрамі. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.



**Стралец (23.11–21.12)**

Не варта захапляцца заманлівымі прапановамі, праяўляць дзелавую актыўнасць ці спрабаваць змяніць звыклы расклад дня. Пастарайцеся ў ветлівай форме адхіліць ад сябе людзей, да якіх няма даверу. Пазбягайце неабгрунтаваных абвінавачванняў. У справах трэба быць асцярожным і ўважлівым, асабліва з дакументамі.



**Казярог (22.12–20.01)**

Творчае натхненне настроіць вас на рамантычны лад. Удача спадарожнічае тым, хто займаецца музыкай і літаратурай. Перыяд добры для рамантычных сустрэч, любоўных спатканняў. Верагодна, вам прыйдзецца рашуча ўзяцца за вырашэнне бытавых праблем. Звярніце ўвагу на якасць харчавання. Зоркі раяць сачыць за сваёй дыетай.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Вы да цяперашняга часу не можаце высветліць сапраўдныя намеры некаторых вашых сяброў. Магчыма, вам варта навучыцца чытаць між строчак для таго, каб зразумець нявыказанае. Вы адчуеце сябе больш камфортна сярод блізкіх людзей, але не выпадковых знаёмых. Будзьце ўважлівыя пры рабоце з матэрыяльнымі каштоўнасцямі.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Жыццё поўнае нечаканасцяў, і гэты перыяд пацвердзіць гэтае правіла. Не забывайцеся, ва ўсяго ёсць зваротны бок. Калі вашыя славалюбівыя планы не ажыццявіліся, радуйцеся таму, што на ваш пункт погляду звярнулі ўвагу. Адпачынак з дзецьмі, цікавая гутарка са старымі сябрамі стануць лепшымі лекамі ад стомленасці.

■ НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

## Што за вокнамі?

**МАЛАДЗЕЧНА. Доўгія гады ў мінулым стагоддзі кожны чалавек павінны быў прайсці так званыя тры стадыі-прыступкі развіцця: акцябронак, піянер, камсамолец.**

Я назаўсёды засталася піянеркай. А мая сястра прайшла ўсе тры. Апошняя прыступка далася складана і нават са слязьмі. Ёй першай з класа прапанавалі ўступіць у камсамол. Статут вывучала так, што аж ад зубоў адскокваў. Экзамен на ўступ у камсамол здавала адзін на адзін з прыёмнай камісіяй – членамі камітэта камсамола. Здавалася, хвіліна аддзяляла яе ад ганаровага звання камсамольца. Каб... не вокны школьнага класа, у якім праходзілі ўступы. Адзін з членаў камісіі спытаў у яе:

— Што вы бачыце за вокнамі?

Яна доўга ўглядалася, але акрамя школьнага стадыёна нічога не бачыла. Менавіта на яго выходзілі вокны. Крыху няўпэўнена так і адказала:

— Стадыён.

На што дзяўчыне прапанавалі зачыніць дзверы з іншага боку. Бо за вокнамі не стадыён, а аказваецца, а камунізм будуецца.

Потым мая сястра ўсё ж стала першай камсамолкай у класе. Але колькі слёз праліла. Цяпер яна пільная і стараецца бачыць у кожным прадмеце не толькі тое, што кідаецца адразу ў вочы.

**Паліна ПРОЧКА.**



Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227
**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **10710 экз.**
Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
У розніцу – цана свабодная. **№ 18 (419) 2.5.2003.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11.
Зак. № 1635. Падпісана ў друк у 13.00 30.4.2003

Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by

## Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667**, **53841**.
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284**.
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233**, **55539**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. **33077**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211**.
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172**.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**